# The Byelorussian Times

ЧАС
Двумоўны беларускі часапіс у З.Ш.А.

No.56, Vol.11, USPS 345—170 September 1986 9—06 Parsons Blvd., Flushing, N.Y. 11357 Price $1.35




## FOREIGN POLICY CONFERENCE AT THE U.S. DEPARTMENT OF STATE

On October 15, 1986, the U.S. Department of State sponsored a foreign policy conference for over 200 leaders of non-governmental organizations including ethnic and nationality organizations and press as well as business and church groups.

Dr. R. Horoshko, publisher of this newspaper, was invited to the conference. Most of the captive nations' groups had at least two representatives and the Ukrainians had nine.

The State Department's aim at the conference was to explain U.S. foreign policy throughout the world and to gather information from the participants. As in the past, the greatest interest centered on U.S.-Soviet relations. Ambassador Rosanne L. Ridgeway, Assistant Secretary for European and Canadian Affairs and James M. Montgomery, Acting Assistant Secretary of State for Human Rights and Humanitarian Affairs, both spoke about the U.S.-Soviet issues, but said nothing new or unexpected.

The State Department's 1400 page annual "Country Reports on Human Rights Practices for 1985" refers to numerous violations of human rights in the Ukraine, but makes no mention about Byelorussia. This is not because the State Department wishes to ignore Byelorussia, but because of lack of information. Secretary Montgomery virtually apologized at the conference for the Ukraine being listed in the report under the USSR instead of separately. It was apparent that the question of the Ukraine is now much discussed at the State Department, but not of Byelorussia. In private conversations it was clear that the State Department wished that Byelorussia were more like Afghanistan, that is more aggressive in pursuit of its rights, instead of appearing resigned to its fate. The U.S., after all, will not initiate a movement for independence in Byelorussia, it will only help when the time is right and provided that there is someone to receive that help.

There appear to be people in the State Department who realize that the international problems created by the USSR will not be resolved until the Soviet Union is dismembered from within, but in order to avoid war, the U.S. will do nothing to undermine the stability of the USSR. Regional stability, or business as usual, is one of the key objectives of the U.S. government in any part of the world, but especially in matters concerning the USSR.

## A Victory in New York



SENATOR D'AMATO (LEFT) AND DR. R. HOROSHKO (RIGHT) MEET DURING THE CAMPAIGN IN NEW YORK'S CHINATOWN

On October 25, 1986, the New York State Republican Heritage Groups Council sponsored a fund raising dinner in Chinatown's "Number One Restaurant" for the U.S. Senator Alfonse D'Amato. Five republican candidates for local political offices and the daughter of New York State's gubernatorial candidate Andy O'Rourke were also present.

The large room in the restaurant was filled to capacity since many people wanted to meet and talk with Senator D'Amato. The largest group was Chinese, but all the other nationality clubs were also well represented. Entertainment was provided by very talented Ukrainian and Chinese singers as well as by Chinese folk dancers.

Senator D'Amato was expected to speak on the subject of human rights with which he is well acquainted, but instead he chose to devote his time to the New York gubernatorial race because Andy O'Rourke appeared to need the Senator's support badly.

Dr. R. Horoshko, president of the Byelorussian-American Republican Club of New York, spoke with Senator D'Amato about the lack of Byelorussian broadcasts by the Voice of America and the Senator promised to meet with the Byelorussians after the campaign to discuss this issue.

At the end of the dinner, Mr. Alfred Hong, chairman of the State Council, recognized the chairmen of each nationality club and thanked them for their support and work in the campaign.

Senator D'Amato's campaign was a huge success and he was re-elected to another six-year term. In the past Senator D'Amato was very active on the issue of human rights, especially violations of human rights by the Soviet Union, and he always kept in touch with the Byelorussian press. We expect that he will continue this work and are very pleased to see him back in the Senate, no doubt as our friend.

## VIENNA CSCE FOLLOW-UP MEETING

The Helsinki Final Act, the result of the Conference on Security and Co-operation in Europe (CSCE), was signed in Helsinki on August 1, 1975, by 35 states. The original proposal for the CSCE conference came from the USSR in 1954, but it was only in July 1973 that the conference convened in Helsinki and, after two years of meetings, concluded its work with a final document — the Helsinki Final Act — that established goals and standards in matters of security, disarmament, economic cooperation and human rights.

The Final Act provides for periodic follow-up conferences to review results and decide on future activities. The first of these was held in Belgrade (1977-78), the second in Madrid (1980-83), and the third is being held in November 1986 in Vienna. The follow-up meetings provide excellent opportunity for criticizing the Soviet Union for its non-compliance with the human rights provisions of the Final Act and exerting on the USSR whatever pressure the conference may have to force the USSR to comply with the agreement which it signed.

Ambassador Zimmermann and the U.S. Delegation to the Vienna meeting are inviting leaders of "non-governmental" organizations, including Byelorussians, to the Vienna CSCE conference. They will be able to attend all sessions except those that are closed or restricted.

Byelorussians living in the Free World may obtain admittance to the conference through their embassies. Those in the U.S. should contact Mr. Orest Deychak (Ukrainian) at the U.S. Commission on Security and Cooperation in Europe, House Annex 2-237, Washington D.C. 20515. Telephone: 202-225-1901.

## З ПАРАФІЯЛЬНАГА ЖЫЦЬЦЯ Ў БРУКЛІНЕ



Айцец Максім Таўпека з Канады (раней з Дэтройту адкуль адшчэпнікі яго выгналі) рэгулярна наведывае парафію ў Брукліне ў часе патрэбы, асабліва на вялікія сьвяты, за што яму належыць вялікая падзяка. На здымцы, а. Максім (зьлева) і Ўладыка Мітрапаліт Ізяслаў (зправа) перад Іконастасам у Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне ў часе Вялікодных службаў.

# КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ



*Пачэснаму Сьвятарству і ўсім Вернікам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

*Дарагія ў Хрысьце Браты і Сёстры!*

ДЗЕНЬ Нараджэньня Хрыстовага ёсьць дзень сьвятла і вясельля, дзень радасьці і сьветлае ўрачыстасьці, дзень ласкі і невымоўнага дараваньня. Сяньня „славу на вышынях Богу" Ангелы сьпяваюць, „і на зямлі мір" пастушкі на жалейках іграюць. Віфлеем славу прымае, і вярцеп сьвятлом непрыступным напаўняецца; яслі на прастол Цару ўладжваюцца. Дзева Херувімам упадабняецца і зямная робіцца Маці недаступнага Бога. Зорка валхвам шлях паказвае і з Усходу цароў прыводзіць. Сяньня нарадзіўся Хрыстос, — і ўвесь сьвет прасьвяціўся, неба з зямлёй злучылася, і Бог з людзьмі прымірыўся. Сяньня Цудоўны пялёнкамі спавіваецца і Вечны — Дзіця ў целе. Сапраўды гэта жахлівае бачаньне і страшнае слуханьне! Той, Хто жыве ў сьвятле непрыступным і перад Кім са страхам стаяць тысячы тысячаў Ангелаў і Архангелаў ляжыць сяньня ў бедных яслях, і стаяць перад Ім — вол і асёл.

О тайна невымоўная! О ўладжаньне прадзіўнае! Той, Хто адзяецца ў сьвятле як у рызу, спавіваецца сяньня пялёнкамі тленнымі, каб адзець род чалавечы ў адзежу нятленьня. Бог страшны зышоў сяньня ня зямлю, каб зямныя жыхары ўзыйшлі на неба. Уладыка Ангелаў прымае выгляд нявольніка, каб вызваліць чалавецтва ад горкай долі і злучыць яго са сьветам Ангелаў у сьвеце няспыннага вясельля. Сын Божы робіцца сынам Дзевы, каб дараваць людзям сыноўства Божае; стаў бедным Найбагацейшы, каб мы збагаціліся Бажаством Яго: упакорыў Усявышні Сваю веліч, каб мы ўзьнесьліся ў славе Ягонай.

І таму прыйдзеце, Хрысталюбцы, узрадуемся праслаўнаю радасьцю: бо прыблізілася нашае збаўленьне, жыцьця вечнага дараваньне, нятленьня абнаўленьне, — прышэсьцем і нараджэньнем Госпада нашага Ісуса Хрыста.

ЁН прымае наш абраз, каб адњавіць сатлеўшы абраз Адама. Із Адама ўзяла пачатак Ева, віноўніца прысяганьня і злачынства: із Дзевы Марыі нараджаецца Хрыстос, Хадайнік благаслаўленьня і спасеньня. Там — зьмей на дрэве: тут Хрыстос на крыжы. Там — ежа, што прычыняе сьмерць: тут — ежа, крыніца жыцьця. Там — галізна і сорам: тут — адзеньне і асьвета. Там скураная адзежа пакрывае сорам: тут адзежа славы пакрывае нашую немач, — тут цела Самога Цара і Госпада, адзежа Царская. Бо колькі Вас, гаворыць Сьв. Пісаньне, у Хрыста ахрысьціліся, у Хрыста апрануліся (Гал. 3,27). Там сказана: ты ёсьць зямля і ў зямлю адыдзеш (Быцьцё 3,19); а тут Тварэц, абнавіўшы зямлю, творыць новага чалавека, і не зямлю абяцае яму, але Царства Нябеснае.

СЫН Божы стаў Сынам чалавечым дзеля таго, каб выратаваць гінучага чалавека. Ці робім мы што-небудзь з свайго боку у адказ на такую ласку да нас Сына Божага? Кожны з нас павінен усім сэрцам верыць у Хрыста, як нашага адзінага Збавіцеля; усім сэрцам трымацца сьв. Царквы Яго, адзінага ратуючага карабля; навучацца бесьперапынна слова Божага і запаведзяў Яго, і паводле запаведзяў кіраваць жыцьцё сваё; усімі мерамі старацца выпраўляць думкі, імкненьні і схільнасьці сэрца; старацца каяцца безупынна перад Богам, наведваць часьцей Храм Божы, спалучацца з Госпадам у таінстве прычасьця дзеля ачышчэньня грахоў і дзеля ўспрыняцьця духоўнае сілы ў барацьбе з грэхам, жыць у ўзаемнай любові і ўва ўсякай дабрачыннасьці.

УСЕ мы, што знаходзімся ў вольным сьвеце, павінны быць больш чульлівымі да патрэбаў нашага паняволенага Беларускага Народу, які сам за сябе ня можа дамагацца. Ня маючы свае Царквы, Беларусы на Бацькаўшчыне ня маюць магчымасьці нават памаліцца за лепшую долю свайго Народу, каб Госпад Бог захаваў іх ад няшчасьцяў цяперашніх і будучых.

НАЙБОЛЬШАЙ нашай зброяй ёсьць нашыя шчырыя малітвы ў Цэрквах да Бога і да Яго сьв. Угоднікаў за наш Народ Беларускі, за яго духоўную, культурную і дзяржаўную незалежнасьць у згодзе з Воляй Божай.

ВІТАЮ ўсіх Вас і Беларусаў на Бацькаўшчыне з нашым вялікім сьвятам — Нараджэньнем Госпада нашага Ісуса Хрыста!

*Лета Божага 1986 месяца сьнежаня*

*†Мітрапаліт Ізяслаў Першагерарх Б.А.П.Ц.*

**ЗРАБІЎ ШТО АБЯЦАЎ:**

# Расстрыжаны Яноўскі, за каго адшчэпнікі ў Гайленд Парку пайшлі ў суд і за каго пачаўся ўвесь царкоўны закалот, адыйшоў і пакінуў парафію разьбітую

Цяжка паверыць, што за аднаго сьвятарка некаторыя людзі ў Гайленд Парку маглі ўзбурыцца супраць сьв. пам. Мітрапаліта Андрэя й пайсьці ў суд супраць Кансыстолрыі БАПЦ. Але-ж так сталася ў 1980-м годзе.

Гэтае сумнае здарэньне можна зразумець у два спосабы:

(1) Або лёгіка й розум зусім пакінулі тых бунтаўшчыкоў, сёньняшніх адшчэпнікаў, або

(2) Яноўскі быў толькі прычэпкаю, сымптомам глыбейшай грамадзкай хваробы й што ён, магчыма нявінна, папаў у рэлігійнае змаганьне паміж праваслаўнымі, якія ўжо разбудавалі сваю царкву, і вуніятамі якія яшчэ толькі мараць аб разбудове свае царквы ў адзіны магчымы для іх спосаб — перанятцем некаторых праваслаўных парафіяў.

Апраўдаць недахоп розуму цяжка й таму на падтрыманьне першага пункту ёсьць толькі пагаворка: „Дурны як адшчэпнік". Праўда-ж, пагаворкі пераважна, да пэўнай меры, абасноўваюцца на факце.

На падтрымку другога пункту шмат пісалася ў *Беларускім Голасе,* але трэба зазначыць, што канкрэтных довадаў мала. Магчыма наймацнейшы аргумэнт на існаваньне вуніяцка-каталіцкага элемэнту ў адшчэпніцтве паходзіць із усім нам ведамага факту, што амаль усе каталікі пайшлі з адшчэпнікамі й супраць БАПЦ.

Трэба лічыць, што ў запраўднасьці камбінацыя дурноты некаторых праваслаўных і заўзятасьці рэлігійных фанатыкаў вуніятаў-каталікоў прычыніліся да бунту ў 1980-м годзе. Падтрымку з Масквы праз прысланых асобаў таксама ня можна выключыць і ясна, што бунт пайшоў Маскве на карысьць.

У ваўсім гэтым бунце Яноўскі быў цэнтральнаю фігураю й тут ужо ня важна ў які спосаб ён да гэтае славы дабраўся. Гэта-ж было звальненьне Яноўскага з парафіі ў Гайленд Парку ў 1980 годзе што выклікала такі бунт сярод месных „дзеячаў" і бунт аднаго архіяпіскапа супраць свайго Мітрапаліта. Бунтаўшчыкі абвінавачвалі Мітрапаліта Андрэя, што ён не „запытаўся іх" і не „ўзгодніў зь імі" звальненьня Яноўскага. Тады „дзеячы" пачалі ставіць умовы Мітрапаліту й пачалі захоўвацца якраз як тыя няслаўныя савецкія „двацаткі".

За Яноўскага адшчэпнікі, як кажуць, „вешаліся", а ён ніколі не праяўляў вялікай любові да сваіх „дабрачынцаў". Вярнуўшыся са сваіх „вакацыяў", Яноўскі йзноў трохі паслужыў для адшчэпнікаў і ўрэшце, у верасьні г.г., пакінуў адшчэпніцкую парафію ў Гайленд Парку атрымаўшы толькі т.з. „адпускную грамату" ад свайго калегі па няшчасьці — Мацукевіча. На яго мейсца ў нядзелі на Багаслужбы прыяжджае а. Карп Стар.

Застаецца пытаньне, хто-ж цяпер будзе царкоўным чампіёнам адшчэпніцкіх „дзеячаў" у Гайленд Парку? Пэўне-ж не а. Карп. Ясна толькі адно, што адшчэпнікі, якія ўжо „перарасьлі" царкоўныя законы, не зьбіраюцца даць сьвятару кіраваць парафіяй як гэта належалася-б.

## Галоўнага Расстрыгу Абакралі ў Кліўлендзе

*„Бог мяне пакараў" — Мацукевіч*

Згодна інфармацыяў прысутных і таксама паводля Акулавых „Навіны", у часе адшчэпніцка-вуніяцкай сустрэчы ў Кліўлендзе, 30-га жніўня г.г., няведамыя асобы ўкралі аўтамабіль расстрыжанага былога арх. Мікалая Мацукевіча, сёньняшняга намінальнага галавы групы схізматыкаў-бунтаўшчыкоў, адшчапенцаў ад БАПЦ. У аўтамабілі было поўнае архірэйскае аблачэньне вартае 7,930 амэрыканскіх даляраў (цана паводля Акулы). Прапалі: мітра, жэзл, панагія, нагрудны крыж, два арлецы, сутана, клубок і архірэйскі чыноўнік.

Злосныя адшчэпнікі пусьцілі плёткі, што аўтамабіль укралі староннікі Мітрапаліта Ізяслава й гэтым нібы „адплацілі" за двухразовае рэзаньне й нішчэньне апонаў на аўтамабілі Ўладыкі Ізяслава калі ён прыяжджаў у Кліўленд яшчэ за жыцьця Мітрапаліта Андрэя.

Адшчэпнікі зьбіраюць грошы на новае аблачэньне, але вынікі збору мізэрныя — да канца кастрычніка толькі 3 асобы злажылі ахвяры ў суме 220 канадыйскіх даляраў.

The Byelorussian Times
USPS 345—170
9—06 Parsons Blvd.
Flushing, N.Y. 11357, U.S.A.
A Byelorussian newspaper published bimonthly in January, March, May, July, September and November.
Dr. Roger Horoshko, Publisher
Annual subscription $8.00
U.S. currency only
From outside of the U.S.A. payment must be made by an international money order drawn on a U.S. bank or by a postal money order payable by the U.S. Post Office. For air mail to Europe add $4.00 or $6.00 to Australia.
POSTMASTER:
Send address changes to the BYELORUSSIAN TIMES
Post Office Box 141
Whitestone, N.Y. 11357
SECOND CLASS POSTAGE PAID AT FLUSHING, N.Y. 11355
ЧАС
Двумоўная Беларуская Газэта
Др. Р. Гарошка, выдавец
Выходзіць 6 разоў на год у студзені, сакавіку, травені, ліпені, верасьні й лістападзе.
Падпіска за 6 нумароў газэты (гадавая) каштуе $8 даляраў у Амэрыцы. З іншых краінаў грошы павінны быць перасланыя ў амэрыканскіх далярах банкавым або паштовым грашовым пераказам.
Лётніская перасылка каштуе дадаткова: $6 да Аўстраліі й $4 да краінаў Эўропы.

**Арганізуецца ў Аўстраліі Выстава:**

## БЕЛАРУСЬ І ЯЕ КНІЖКІ

Ад лістапада 1986 г. да сакавіка 1987 г. факультэт славянскіх моваў унівэрсытэту Монаш у Аўстраліі, з дапамогаю Галоўнай Бібліятэкі й беларускага грамадзтва ў Мэльбурне, ладзіць у унівэрсытэцкай бібліятэцы выставу „Беларусь і яе кніжкі". Прафэсар тога-ж унівэрсытэту, Н.І. Марван (Чэх), выдаў на выставу брашуру (7 бачынак) у якой падае галоўныя факты пра Беларусь, яе культуру, мову, гісторыю й рэлігію. Брашура таксама перакладзена на беларускую мову. Больш пра выставу падамо пасьля адкрыцьця.

# Акт 25-га Сакавіка й Адраджэньне Нацыянальнай Беларускай Культуры

**АЎГЕН КАЛУБОВІЧ**

(*працяг з 54-га нумару газэты*)

**—5—**

ГІСТОРЫЯ **н а ц ы я н а л ь н а г а б е л а р у с к а г а т э а т р у** ў 1916-21 гг. была напісана Ф. Аляховічам[108], кароткія весткі зь яе ёсьць у кнізе У. Сядуры[109] і ў некаторых артыкулах[110]. Але дзеля таго, што ў сучасных савецкіх публікацыях[111] гісторыя гэтая, як і масавы культурны рух у Беларусі ў 1917-21 гг. (аб чым мова будзе наперадзе), падаецца ў скажоным сьвятле (з рознымі перакручваньнямі, прамоўчваньнямі й нацяжкамі), а адшукаць сёньня старэйшыя крыніцы гэтай гісторыі ўжо нялёгка, — для цэласьці гісторыі нашага нарысу варта хоць з большага гісторыю гэтую тут аднавіць, дадаўшы да яе новыя факты й дэталі.

У часе, пра каторы мы гаворым, паўстала тры беларускія тэатры: адзін — у Вільні, два — у Менску.

### *Віленскі Беларускі Тэатар*

Арганізацыя Беларускага Тэатру ў Вільні зьвязана зь імем Ф. Аляхновіча[112]. Пад нямецкай акупацыяй, звольніўшыся із расейскай турмы на Лукішках, дзе ён сядзеў у 1914-15 гг. і дзе напісаў сваю першую (із усіх 18) п'есу „На Антокалі", ён з энтузіязмам бярецца за арганізацыю нацыянальнага беларускага тэатру. Не зважаючы на цяжкія ўмовы ваеннага часу, зьбірае каля сябе „*Музычна-Драматычны гурток,* давёўшы яго да 60 асобаў. Болей за 20 зь іх — акторы „*Драматычнай дружыны*" (П. Бароўскі, Ф. Жукоўскі, М. Булгак, Г. Кодзь, Я. Валаховіч, К. Юхневіч, Аколаў-Зубкоўская, Л. Мэнкэ, К. Стэфанавічанка, С. Камінская, А. Сакавічанка, Э. Блажэвічанка й інш.), *аркестра* із 16 музыкантаў, *хор* (кір. — М. Дунаеў) і *танцавальная група.* Сам Ф. Аляхновіч — дырэктар, рэжысэр, актор і драматург тэатру[113]. Каб папоўніць тэатральны рэпэртуар, ён піша новыя п'есы: „*На вёсцы*" (1916 г.), „*Бутрым Няміра*" (1916 г.), „*Манька*" (1917 г.), „*Базылішак*" (1917 г.), „*Каліcь*" (1917 г.), дзіцячую п'есу „*У лясным гушчары*" (1917 г.).

Тэатар не адразу знайшоў для сябе адпаведнае памешканьне (клюб із саляю й сцэнаю). Ад 1.VI.1916 г.[114] ён меў невялікае памешканьне на Вялікай вуліцы, ад канца лютага 1917 году[115] — большае, на Віленскай, Нр.28, а 25.V.1917[116] перабраўся ў яшчэ лепшае — у былую салю „Руты" на Сьв. Юраўскім праспэкце, Нр.22.

Першыя выступы тэатру пачаліся ў часе, калі ён быў яшчэ ў стадыі арганізацыі — 20.II.1916 г. паказам п'есаў „*Модны шляхцюк*" К. Каганца й „*Як яны жаніліся*" А. Валодзькі, канцэртам 17.IX.1916 г. на адкрыцьці першага Беларускага клюбу ў Вільні[117].

13.X.1916 г. газэта „Гоман" (Нр.70) у вартыкуле „Беларускі тэатар" паведаміла, што „ў нядлзелю 15 кастрычніка ў салі Работніцкага клюбу (Вароньня, Нр.5) Драматычная дружына... пад кірункам рэжысэра Ф. Аляхновіча... ставіць драматычны абразок Э. Ажэшковай у 4 актах... „Хам". Гэты артыкул, перакладзены ў нямецкую мову, быў надрукаваны ў "Wilnaer Zeitung". Рэцэнзія на паказ была зьмешчана ў „Гомане" (Нр.72 за 20.X.1916 г.). „Выбар п'есы, — пісалася ў ёй, — сам гаворыць за сябе. Рэч дзеецца ў беларускай вёсцы — над родным, дарагім кожнаму з нас Нёманам... дзеецца ў беларусаў, каторыя толькі цяпер адбудоўваюць сваю бацькаўшчыну... Трэба адзначыць, што дружына не пашкадавала сваіх сіл, каб сыграць гэту п'есу сумленна і нават с талентам. Роль Пронькі — ... трудная ... але прайшла яна добра: артыстка перасіліла ўсе труднасьці. Роль Паўлюка іграў сурёзны артысты, каторы стварыў тып жывы, без шаржу, не ганяючыся за таннымі эфэктамі. С пад'ёмам, нават з некаторым задорам і с талентам іграла Аўдоцьця, удала выйшаў і тып жэбрачкі Марцэлькі — хітрай, няшчырай бабы. Рэшта іграўшых дапоўнілі дружна ўвесь абраз.

Публіка шчыра вітала маладую беларускую дружыну, выказваючы сваю падзяку гарачымі воплескамі і вызываючы іграўшых некалькі разоў пасьля спуску куртыны. Проньцы падалі кветкі. І хоць суровы крытык мог-бы тое-сёе зганіць — выйшаўшы з тэатру я захавала надоўга сільнае ўражаньне ў глыбі душы".

Ад 15.X.1916 г. і датуецца гісторыя Беларускага Тэатру ў Вільні. Ад гэтага часу пачаліся большменш рэгулярныя ўва ўмовах вайны спэктаклі. У газэце „Гоман" падаюцца частыя абвесткі пра іх, рэцэнзіі ці артыкулы. У тэатры ішлі:

5.XI.1916 г. — „*У зімовы вечар*" паводля Э. Ажэшкі й „*Міхалка*" Далецкіх;

10.XII.1916 г. — „*Як яны жаніліся*" А. Валодзькі;

26.XII.1916 г. — прэм'ера „*На Антокалі*" Ф. Аляхновіча.

У „Гомане" (Нр.92 за 29.XII.1916 г.) на спэктакль „На Антокалі" надрукавана вялікая рэцэнзія. Рэцэнзія зьявілася ў нямецкай газэце "Wilnaer Zeitung". Вытрымкі зь яе падае „Гоман" (Нр.92) у беларускім перакладзе: „Трэба шчыра вітаць жывые сілы, каторые сваей працай далей разьвіваюць культурнае жыцьцё беларусаў і даюць яму сваю ўласню сцэну... Ігра была знаменітая. І песьні і дуэты (выкананы) добра. Аўтар, каторы іграў роль гаспадара шавецкага варштату надта добра, спаткаў са сваей п'есай добры прыём публікі і быў шчыра вітаны. Няхай гэта будзе для яго паддзержкай дзеля далейшай творчай працы".

Далей ставіліся:

27.XII.1916 г. — „*Хам*" паводля Э. Ажэшкі;

1.I.1917 г. — „*На Антокалі*";

17.II.1917 г. — „*Паўлінка*" Я. Купалы[118];

18.III.1917 г. — „*На вёсцы*" Ф. Аляхновіча;

31.III.1917 г. — другі раз „*На вёсцы*";

22.IV.1917 г. — „*У Купальскую ноч*" паводля Я. Купалы;

27.IV.1917 г. — „*Петра Каруза*" Р. Бракко;

2.V.1917 г. — другі раз „*Петра Каруза*";

27.V.1917 г. — „*На Антокалі*".

У вартыкуле „Беларускі тэатар" („Гоман, Нр.38/234 за 10.V.1918 г.) даецца агульны агляд спэктакляў другога тэатральнага сэзону (восень 1917 — вясна 1918 гг.): прэм'еры „*Каліcь*", „*Бутрым Няміра*" й „*Манька*" Ф. Аляхновіча (усе па тры разы); із старых паказаў — „*На вёсцы*" (тры разы), „*Міхалка*" (два разы), „*У Купальскую ноч*" (адзін раз) і г.д.

Двойчы Ф. Аляхновіч адлучаўся зь Вільні ў Менск (у чэрвені 1918 і жнівені 1919 г.). Тады яго ў Вільні заступаў адзін із вядучых актораў тэатру П. Бароўскі[119]. Аднак увесну 1919 і ў сярэдзіне ліпеня 1920 г. ён вяртаўся назад у Вільню й зноў кіраваў тут тэатрам.

### *Беларускі Дзяржаўны Тэатар БНР у Менску*

„У першых днях красавіка 1917 г. (адразу пасьля паўстаньня 26.III.1917 г. у Менску БНК — АК) Ядвігін Ш. запрапанаваў Ф. Ждановічу стаць на чале драматычнай дружыны[120]. У „Беларускай Хатцы" ... адбывалася нарада ўдзельнікаў драматычнага гуртка... Сход пастанавіў назвацца імем „*Першага Таварыства беларускай драмы і камэдыі*" і абраў сваім кіраўніком Ф. Ждановіча...

1 красавіка 1917 г. у Менскім грамадзкім тэатры адбыўся першы беларускі спэктакль. Ігралі „*Паўлінку*" і „*Рысь*" („*У зімовы вечар*" — АК)... Дзень 1 красавіка 1917 г. можна лічыць пачаткам існаваньня „Таварыства беларускай драмы і камэдыі", хоць арганізацыйна яно было аформлена на сходзе 1 мая ... з удзелам прыехаўшага ў Менск Ігната Буйніцкага, (на якім) апошняга абралі кіраўніком „Таварыства", рэжысэрам трупы — Ф. Ждановіча, а гаспадаром-адміністратарам — У. Фальскага"[121].

Апрача драматургаў, „Таварыства" складалася із „*Драматычнай дружыны*" (Ф. Ждановіч, У. Фальскі, А. Крыніца, Я. Беларус, П. Мядзёлка, В. Тарасік, Р. Жакоўскі, Сымон Музыка, В. Вашкевіч, Л. Ржэцкая, ад 1918-19 гг. — Г. Грыгоніс, К. Саньнікаў, М. Заросская, С. Станюта, М. Міцкевіч, Л. Навахоцкая й інш.), *хору* (кіраўнік — камп. У. Тэраўскі), *аркестры народных інструмэнтаў* (кіраўнік — З. Захар) і *танцавальнай групы* (кіраўнік Ч. Родзевіч). Сталае месца ягоных выступаў —„Беларуская хатка" на Камароўцы.

У травені месяцы тэатр выехаў у гастрольнае падарожжа — у Слуцак (дзе ім была паказана „*Паўлінка*"), Асіпавічы (таксама —„*Паўлінка*"), у Бабруйск („*Паўлінка*", „*Модны шляхцюк*", „*Пашыліся ў дурні*" М. Крапіўніцкага, „*У зімовы вечар*"); 7-11 чэрвеня — у Магілёў („*Паўлінка*", „*Хам*", „*У зімовы вечар*", „*Міхалка*", „*Пашыліся ў дурні*", „*Сёньняшнія і даўнейшыя*" К. Буйлы); наступна — у Жлобін, Радашковічы, Койданава, Заслаўе, Барысаў і іншыя месты[122]. Па звароце з падарожжа ў тэатры была пастаўлена драма Я. Купалы „*Раскіданае гняздо*" (ліпень 1917 г.).

Увосені да тэатру далучыўся У. Галубок як актор, рэжысэр і драматург (аўтар к. 40 п'есаў). Ён паказаў мянчанам свае „*Пісаравы імяніны*" й некаторыя іншыя п'есы[123]. У часе 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску для дэлегатаў Кангрэсу 27.XII.1917 г. у „гарадзкім" тэатры была адыграная ягоная драма „*Апошняе спатканьне*"[124].

На ўгодкі „Першага Таварыства беларускай драмы і камэдыі", 19.V.1918 г. у Менску, на Ляхаўцы, быў адкрыты Беларускі Народны Дом імя М. Багдановіча, які стаўся новаю сядзібаю тэатру. З гэтае нагоды была паказана спэцыяльна напісаная У. Галубком п'еса „*Бязьвінная кроў*" (пастаноўка Ф. Ждановіча, музыку да яе напісаў камп. У. Тэраўскі). На ўрачыстасьці адкрыцьця ў „гарадзкім" тэатры з прамоваю выступіў прэм'ер Ураду БНР Я. Варонка. Тэатар „Першага Таварыства беларускай драмы і камэдыі" быў рэарганізаваны ў *Беларускі Дзяржаўны Тэатар БНР* на чале із Ф. Ждановічам, У. Галубком, і У. Фальскім. Ён атрымаў ад Ураду БНР штомесячную фінансавую субсыдыю[125].

### *Трупа Ф. Аляхновіча*

У чэрвені 1918 году ў Менску зьявіўся зь Вільні Ф. Аляхновіч, які прынёс сюды свой новы, невядомы тут рэпэртуар. „Ужо першая пастаноўка Ф. Аляхновіча, для якой ён выбраў сваю гістарычную п'есу „*Бутрым Няміра*", паказала, які моцны талент Заходняе Беларусі загасьцяваў у Менску. Аўтар сам згуляў галоўную ролю баярына Бутрыма Няміры, і сваёй запраўды мастацкай гульнёй зачараваў усіх гледачоў"[126].

Газэта „Гоман" (Нр.52/248 за 5.VII.1918 г.) пісала: „Справа беларускага тэатру цяпер стаіць (у Менску) на добрым грунце. Народны Сэкрэтарыят зацьвердзіў ужо дырэкцыю ... тэатру, зложаную с трох асоб ... і склад драматычнае дружыны.

Сюды прыехаў гэтымі днямі вядомы беларускі драматычны аўтар і артыста, Ф. Аляхновіч, кіраваўшы ўсёй тэатральнай работай у Вільні. З яго ўчасьцям і пад яко кіраўніцтвам маюць быць пастаўлены на менскай сцэны яго сцэнічные творы.

Ф. Аляхновіч сустрэў у Менску вельмі гарачы прыём".

Тут ён напісаў п'есы „*Чорт і баба*", „*Страхі жыцьця*", „*Дзядзка Якуб*" і зарганізаваў сваю трупу, якая, побач іншых п'есаў, ставіла й ягоныя. Трупа Ф. Аляхновіча выступала ў „Беларускай хатцы" на Камароўцы. Фінансава яе падтрымлівала Таварыства „Бацькаўшчына"[127].

Пасьля савецкай акупацыі БНР (ад сьнежаня 1918 да жнівеня 1919 г.) беларускія тэатры ў Менску аднавілі сваю дзейнасьць.

Першым пачаў свае паказы ў „Беларускай хатцы" *Тэатар „Таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва*" пад кіраўніцтвам Ф. Аляхновіча. Да яго далучыліся У. Фальскі, У. Галубок, М. Заросская, М. Чарот, хор У. Тэраўскага й інш. Ад верасьня 1919 г. у гэтым тэатры ішлі п'есы „*Паўлінка*", „*Бязродны*", „*Ганка*" й „*Праменьчык шчасьця*"[128] У. Галубка й г.д. У Менску Ф. Аляхновіч піша новыя п'есы — „*Цені*"[129], „*Птушка шчасьця*" й „*Няскончаная драма*".

Ад сьнежаня 1919 году пачаў паказы спэктакляў *Беларускі Нацыянальны Тэатар* (былы Беларускі Дзяржаўны Тэатар) пад кіраўніцтвам Тэатральнай камісіі Беларускага Нацыянальнага Камітэту[130]. Першай ішла п'еса У. Галубка „*Апошняе спатканьне*" (19.XII.1919 г.)[131].

Хоць у 1919-20 гг. у Менску было два беларускія тэатры, але цэнзура польскіх акупацыйных уладаў тармазіла іхную працу.

І ў Вільні, і ў Менску, асабліва на пачатку, у беларускіх тэатрах працягваліся традыцыі й рэпэртуар тэатра І. Буйніцкага. Аднак хутка на сцэну прыйшлі новыя акторы, а ў рэпэртуары зьявіліся новыя арыгінальныя п'есы беларускіх пісьменнікаў Ф. Аляхновіча, У. Галубка, А. Паўловіча, Я. Коласа, М. Чарота, Л. Родзевіча й іншых.

У красавіку 1917 году кампазытар У. Тэраўскі стварыў у Менску прафэсійны *Беларускі Народны Хор* і ад лета 1917 году падарожнічаў з канцэртамі па Беларусі.

**— 6 —**

„Канец 1920 і пачатак 1921 г. закончыўся поўнай перамогай у адраджэньні беларускай культуры... Гэта зрабілі тры папярэднія гады. Тэрмін — надзвычай малы, але кожны з гэтых гадоў ... раўняўся дзясяткам гадоў папярэдніх".

Пётра Крэчэўскі, старшыня Рады БНР — Замежная Беларусь. Зборнік гісторыі, культуры і эканомікі, кн.1, Прага, 1926 г., б.112.

АГУЛЬНАЯ хваля нацыянальнага беларускага адраджэньня ў 1917-21 гг. выклікала ў Беларусі **м а с а в ы к у л ь т у р н а - а с ь в е т н ы** рух. Паўсюдна, дзе была нацыянальна-сьведамая беларуская інтэлігэнцыя (галоўна настаўнікі) і ініцыятыўная беларуская моладзь, пачалі зьяўляцца розныя беларускія культурна-асьветныя таварыствы, *аматарскія* драматычныя, харавыя, краяведныя й іншыя гурткі.

Пачаўся гэты рух ад вясны 1917 году, адразу пасьля лютаўскай расейскай рэвалюцыі. Быў ён або *кіраваны* згары беларускімі нацыянальнымі цэнтрамі, або стыхійны.

Ужо ў травені месяцы для кіраваньня культурным рухам у Беларусі БНК заснаваў у Менску *Таварыства Беларускай Культуры,* якое ад 28.V.1917 г. пачало выдаваць беларускую тыднёвую *газэту „Вольная Беларусь*". 5.VIII.1917 г. наступніца БНК — Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў — на сваёй 1-ай сэсіі ў Менску прыняла *Статут Беларускіх Нацыянальных Культурна-Прасьветных гурткоў у Войску.* У Статуце тым Рада наказвала, каб „у кожнай вайсковай часьці ваенные-беларусы зьядноўваліся ў Грамаду" (п.1), а „кожная беларуская Грамада закладала ў сябе *культурна-прасьветны гурток*" (п.2), які „павінен выпісываць і пашыраць беларускія кнігі і газэты" (п.11). „Усе члены беларускай Грамады ў вайсковых часьцях павінны гаварыць паміж сабой пабеларуску" (п.14) „і скрозь ужываць сваёй роднай мовы" (п.17), як і „пастановы свае і дзелаводзтва гуртка ... весьці ў беларускай мове" (п.15). „Кожны член Грамады павінен вучыцца пісаць у беларускай маве і пісаць лісты дадому толькі пабеларуску" (п.16)[132].

Таварыства Беларускай Культуры (называнае іначай *Таварыствам „Прасьвета*") у жнівені 1918 году рэарганізавалася ў *Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства „Бацькаўшчына*". Ягонымі заснавальнікамі былі Я. Лёсік, Я. Варонка, К. Езавітаў, Е. Бялевіч, Ю. Гадыцкі-Цьвірка й іншыя

(працяг на 4-й бачынцы)

# Акт 25-га Сакавіка...

(працяг з 3-й бачынкі)

лідэры беларускага руху[133]. Побач яго, яшчэ ў канцы лета 1917 году *ў Менску* паўстаў *гурток беларускай моладзі „Вянок*", хутка рэарганізаваны ў агульнанацыянальнае таварыства *„Беларуская Вучнёўская Грамада*". Грамада мела свайго дэлегата (гімназыстага Садоўскага) на Ўсебеларускім Кангрэсе[134].

Арганізацыі гэтыя (з такімі ці іншымі назвамі) тварылі свае аддзелы ў Менску, Бабруйску, Слуцку, Горадні, Вільні й шэрагу іншых паветавых местаў Беларусі[135]. Культурна-асьветныя гурткі іхныя, як сэкцыі арганізацыяў масава паўставалі пры беларускіх гімназіях і народных школах, у валасных цэнтрах і сёлах па ўсёй Беларусі. Вось некаторыя прыклады зь іх у храналягічным парадку па паветах.

У самім *Менску* Грамада арганізавала колькі гурткоў. Найбольшую актыўнасьць зь іх разгарнулі *драматычны* й *харавы.* Драматычны гурток, якім кіраваў А. Андрэяў, у працягу 2-ух год выступаў із спэктаклямі ў „Беларускай хатцы", паказаўшы менскаму гледачу п'есу Я. Коласа „Антось Лата" й шмат іншых. У часе 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу, дзе для дэлегатаў ягоных было дадзена колькі беларускіх канцэртаў, менская Грамада выступала із сваім хорам, а ейны драматычны гурток — із дэклямацыямі вершаў беларускіх паэтаў[136]. У кастрычніку 1919 году яна стварыла пры Тэатры „Таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва" сваю *„Драматычную Сэкцыю*". Ёю кіраваў адзін із актораў тэатру „Таварыства" драматург С. Іваноў (Сымон Музыка). Да Драматычнай Сэкцыі, спасярод іншай беларускай моладзі, тады належалі будучы паэта А. Дудар і будучы народны артысты БССР А. Ільлінскі. Сэкцыя існавала да расейскай акупацыі БНР у ліпені 1920 году. За няпоўны год яна паказала мянчанам спэктаклі „Пашыліся ў дурні", „Пасьля сьмерці" й на „Маскарад" свайго кіраўніка С. Іванова, „На дарозе жыцьця" Я. Коласа, „Васількі" А. Паўловіча, п'есы М. Чарота й іншыя[137].

Відаць, не бяз удзелу Менска культурна-асьветныя гурткі паўставалі і ў *Менскім павеце.* У *м. Койданаве драматычны гурток* у вялікім гумне, перарobленым на „тэатар", ад лета 1918 году ставіў п'есы „Паўлінка", „Антось Лата", „Ня розумам сьцяміў, а сэрцам" К. Вясёлага, „Па рэвізіі", „Як яны жаніліся" й г.д. У *с. Каралішчавічы,* у *„вясковым тэатры*", арганізаваным у 1918 годзе настаўніцай А. Міцкевіч, ставіліся п'есы „Міхалка", „Паўлінка", сьпяваліся беларускія песьні, дэклямаваліся вершы. У *с. Мікалаеўшчына гурток сялянскай моладзі* зь мясцовымі й акалічнымі настаўнікамі 13.Х.1918 г. паставіў п'есу „Ня розумам сьцяміў, а сэрцам"[138].

У верасьні 1917 году пры *Слуцкай беларускай гімназіі* было заснавана *Культурна-Асьветнае Таварыства „Папараць-кветка*". Арганізатар і кіраўнік ягоны — Ф. Шаптыра. Таварыства мела тры сэкцыі: краяведную, роднай мовы й літаратуры й драматычна-харавую. Апошняй кіраваў А. Бараноўскі. Кіраўнікі „Папарць-кветкі" трымалі лучнасьць зь Менскам, выяжджалі туды на кансультацыі, спатыкаліся зь беларускімі драматургамі й атрымлівалі ў іх іхныя новыя п'есы. Яны засноўвалі па мястэчках і сёлах *Слуцкага павету* як свае філіі розныя гурткі, у бальшыні пры беларускіх школах. Такія гурткі-філіялы былі імі заснаваныя ў *с. Старыца* (*гурток „Зарніца*" пад кір. А. Калпака), у *с. Засялоньне* (*гурток „Крыніца*", кір. Аніхоўскі), *школьны гурток у м. Грозава* (кір. настаўнік Пратасэвіч), у *с. Ліпнікі* (*гурток „Зорка*"), *гурток моладзі* ў *с. Усерна* (кір. У. Дубін), у *с. Сухая Міля* (кір. М. Дубін) і ў с. Слабада-Кучынка[139].

Першым у Таварыстве быў заснаваны *драматычны гурток* пры самой гімназіі. Пачатак ягоных спэктакляў — восень 1917 году, калі на гімназіяльнай сцэне была паказана „Паўлінка". „Эта первая постановка, — пісаў сучасьнік, — произвела сильное впечатление на зрителя. Она многих какбы озадачила. Вдруг все заговорили о том, что тот самый „мужицкий" язык, который они слышали каждый день и который они так старательно пытались выкорчевать из ежедневного своего обихода, тот самый язык на сцене в литературной обработке такой красивый. Многие ушли со спектакля уже с искренним одобрением к начатому культурному делу"[140]. Наступныя паказы гімназіяльнага гуртка былі перанесеныя ў будынак меставага Народнага тэатру (б. Шляхоцкі клюб).

У рэпэртуары Слуцкага й паветавых драматычных гурткоў былі п'есы: „Госьць з катаргі", „Бязьвінная кроў", „Душагубы", „Апошняе спатканьне" й „Суд" У. Галубка, „Рысь", „Хам", „Паўлінка", „Модны шляхцюк" і шмат іншых.

Пасьля антысавецкага Слуцкага паўстаньня ў лістападзе-сьнежані 1920 году й прыходу ў Слуцак бальшавікоў Таварыства „Папараць-кветка" было разьвязана[141].

Ад восені 1917 году беларускі драматург Я. Кавалёнак, настаўнікі М. Касьпяровіч і Бортнік арганізавалі па *мястэчках і сёлах Ігуменскага павету „беларускія вечарынкі*" — канцэрты мастацкай самадзейнасьці аматарскімі выканаўцамі. У *Пагарэльскай воласьці* пад кіраўніцтвам настаўніцы П. Мядзёлкі (б. актрысы „Першага Таварыства беларускай драмы і камэдыі") ставіліся *спэктаклі* („Модлы шляхцюк", „Міхалка" й іншыя). Я. Кавалёнак у *Пагосцкай воласьці* паставіў сваю п'есу „Самаахвотная катарга"[142].

Улетку 1918 году пасьля заканчэньня Менскага настаўніцкага інстытуту ў *м. Дукоры* Ігуменскага павету прыехаў новы настаўнік, В. Гарбацэвіч, будучы беларускі драматург. Ён заснаваў тут *драматычны гурток,* які быў дзейным да канца 1923 году. Пад ягоным кіраўніцтвам гурток ставіў п'есы „Паўлінка", „Прымакі" й „Раскіданае гняздо" Я. Купалы, „Антось Лата" Я. Коласа, „Модны шляхцюк", „Пашыліся ў дурні", „Апошняе спатканьне", „Бязьвінная кроў", „Суд", „За каменнай сьцяной" У. Галубка, „Зьбянтэжаны Саўка" Л. Родзевіча й г.д. Гурток часта выяжджаў із сваімі спэктаклямі ў бліжэйшыя сёлы. У *с. Блонь Пухавіцкай воласьці культурна-асьветны гурток „Вір*" заснаваў і кіраваў ім В. Ажгірэй, будучы беларускі драматург і пісьменьнік А. Вольны[143].

У канцы 1917 году пры *Будслаўскай беларускай гімназіі Вялейскага павету* быў заснаваны *культурна-асьветны гурток „Вяночак.*" *Драматычная сэкцыя* гэтага гуртка ладзіла ў мястэску спэктаклі „Паўлінкі", „Па рэвізіі", „Як яны жаніліся" й іншыя. Свае спэктаклі ў наступным годзе „Вяночак" паказаў у мм. Даўгінава й Докшыцах. Праўдападобна, гэта ён заснаваў *Таварыства беларускай моладзі „Вяночак" у с. Хаценчыцы,* які паставіў там купалаўскую „Паўлінку", і ў 1919 годзе ў *м. Крайск — гурток „Вянок*", якім кіраваў В. Тарасэвіч[144].

У травені месяцы 1918 году настаўнікі й іншая інтэлігэнцыя *Радашковічаў* арганізавалі ў сваім мястэчку із сяброў мясцовай філіі *Беларускай Вучнёўскай Грамады Народны тэатар* і ставілі п'есы „Модны шляхцюк", „Па рэвізіі", „Міхалка" й шмат іншых. Мясцовае насельніцтва Радашковічаў так захапілася адраджэнскім рухам, што адбудавала ў мястэчку *Народны дом* як цэнтар усёй культурнай працы, куды перанесла й спэктаклі свайго Народнага тэатру[145].

*Грамада Беларускай Моладзі ў Горадні* асабліва стала дзейнай ад чэрвеня 1919 году, калі ейным *драматычным гуртком* пачала кіраваць прыехаўшая сюды із Ігуменскага павету П. Мядзёлка, і харавым гуртком — У. Шак. Грамада й ейныя гурткі існавалі тут да 1921 году. Яны ладзілі, найчасьцей у меставм тэатры, па 2-4 паказы ў месяц. У праграме першага іхнага паказу, каторы адбыўся 20.VII.1919 г. — п'есы „Па рэвізіі" й „Як яны жаніліся", выступленьне хору й дэклямацыі вершаў беларускіх паэтаў. Наступныя паказы — „Паўлінка", „Міхалка", „Зьбянтэжаны Саўка", „Пашыліся ў дурні" й г.д. Грамада заснавала таксама свае філіі ў *с. Верцялішкі* (цяпер — Горадзенскі раён) і ў *м. Крынкі* (цяпер — на Беласточчыне ў Польшчы), дапамагла ім падрыхтаваць колькі спэктакляў. Найбольш актыўным быў *драматычны гурток* у Крынках. Ад 1919 году ён паказаў местачкоўцам спэктаклі „Раскіданае гняздо", „Апошняе спатканьне", „Пашыліся ў дурні", „Зьбянтэжаны Саўка" й шэраг іншых[146].

Такія-ж культурна-асьветныя таварыствы й гурткі былі ў *Наваградку, Міры, Турцы Наваградзкага павету,* у *с. Лапаровічы* пад Менскам, у Дзісьне й шматлікіх іншых месцах Меншчыны й Віцебшчыны[147].

Што тычыцца *стыхійнага* культурна-адраджэнскага руху, які разьвіваўся й масава шырыўся на Беларусі, побач руху кіраванага згары, — то былы першы прэм'ер Ураду БНР Я. Варонка слушна пра яго заўважыў, што „беларуская справа ... расла, шырылася і цьвіла ... стыхійна таму, што істотаю яе быў, ёсьць і будзе сам беларускі народ, яго адвечнае існаваньне, сіла яго адраджэньня, багаты скарб яго мінуўшчыны"[148]. Тут мы зьвернем увагу на дзьве асаблівасьці гэтага народнага адраджэнскага руху — на ягоную *масавасьць* і *напорыстасьць* у змаганьні супраць розных перашкодаў з польскага й расейскага боку. Пра асаблівасьці гэтыя могуць сьведчыць, прыкладам, такія факты.

Толькі ў вадным *Ігуменскім павеце* пад уплывам менаваных намі гурткоў, як грыбы пасьля дажджу, зьявіліся гурткі ў *сс. Раўнапольле, Голацк, Караваева, Жораўкі, Каровічы, Дзерць, Востраў, Карма, Каралёва, Вялікае Поле, Бабінавічы* й *Карповічы*[149]. І гэта быў не адзіночны выпадак: так было шмат дзе на Беларусі.

Газэта „Гоман" (Нр.51/247 за 2.VII.1918 г.) у вартыкуле „Беларускі тэатр на вёсцы" паведамляе, што ў нядзелю 16-га чэрвеня ў некалі былой карчме каля *с. Шастакі Віленскага павету* адбыўся *спэктакль.* „Старую запушчаную карчму ачысьцілі, прыбралі зяленівам, у адным куце (зрабілі) прымітыўную сцэну, прыбраўшы яе галінкамі арэшніку ды бярозы і завесіўшы сялянскае работы тканінамі ..." Ставілі сцэнічную ідылю Ф. Аляхновіча „На вёсцы"...

„Народу было каля 200 чалавек, а мо і болей. Былі і прадстаўнікі нямецкіх уласьцей ды некаторые с тутэйшых паноў. Публікі было-бы пэўне яшчэ болей, каб не агітацыя тутэйшых, так званых „палякоў". А калі агітацыя не памагла, то давай розныя плёткі пускаць: хто пойдзе (на беларускі спэктакль), таго сфатаграфуюць... і будзеш беларус — значыць гвалтам зробяць праваслаўным. Калі хочаш астацца каталіком, то павінен казаць, што (ты) паляк, бо наша вера польская, а не беларуская ці іншая якая. Так кажуць усе тутэйшые „польскіе" паненкі-вучыцелькі... Ды яшче так тлумачаць, што мова нашых сялян — гэта мова не беларуская, а „простая", бо яны народ просты, але польскі, а беларусаў тут ніякіх няма. А то яшчэ пастрахі былі: хто пойдзе (на беларускі спэктакаль), таго ксёндз ня прыме да споведзі..."

„Ня гледзячы на ўсе страхі, людзі не спалохаліся: яны... ужо пазналі праўду, ведаюць, што яны — беларусы, чытаюць беларускіе кніжкі і газэты, а недаўна завялі ў сябе (у Белым Дварэ) і беларускую школу. І прыемна было бачыць рэзультаты працы беларускай вучыцелькі, Ірэны Родзевічанкі, каторая ў вельмі кароткі час здалела прыгатаваць дзяцей да публічнага выступленьня..."

Яшчэ горай было ў раёнах ўсходняй Беларусі, на падрасейскай тэрыторыі, якая ня была ні пад нямецкай, ні пад польскай акупацыяй. Із культурна-асьветных арганізацыяў там былі выпучна расейскія, а калі дзе й рабіліся спробы заснаваньня беларускіх, яны напатыкаліся на перашкоды з боку расейскіх уладаў. Вось ілюстрацыя.

У сакавіку 1917 году ў *м. Горкі* паўстаў расейскі „Литературно-вокально-драматический кружок". Пры ім была заснавана *„Беларуская сэкцыя вучняў горацкіх сельска-гаспадарчых школ*" (ад 1919 году — *„Беларуская сэкцыя студэнтаў Горцкага сельска-гаспадарчага інстытуту*"). У „Беларускай сэкцыі" — 50 сяброў, і яна праіснавала да 1925 году. Сэкцыя выдала ўлётку *„Як чытаць пабеларуску*" (пра галоўныя асаблівасьці беларускай мовы й вымаўленьня). Але найбольшая ейная дзейнасьць — *драматычны гурток,* які ўвосені 1917 году паказаў інсцэніроўку паэмы „Тарас на Парнасе". Наступна быў падрыхтаваны спэктакль „Пашыліся ў дурні". Алнак „прежде чем этот спектакль был показан зрителю (студзень 1918 году), Белорусской секции пришлось выдержать борьбу с тем, кто пренебрежительно или пессиметически смотрел на затею спектакля на белорусском, „мужицком", языке. Руководителям Белсекции пришлось собирать подпісы среди учащихся, по большинству голосов любители получили право ставить свой спектакль на родном языке в актовом зале"[150]. У горадзе зьявілася навіна — беларускія абвесткі. Не хапіла білетаў, бралі нарасхват, так шмат знайшлося ахвотнікаў паглядзець тэатр на беларускай мове... Заля дрыжэла ад апладысмэнтаў, а слава аб беларусах пайшла далёка за Горкі"[151].

Наступныя паказы драматычнага гуртка „Беларускай сэкцыі" — „Залёты" В. Дуніна-Марцінкевіча, „Апошняе спатканьне" й „Ганка" У. Галубка, „Па рэвізіі", „Модны шляхцюк", „Міхалка" й іншыя. Горацкія студэнты заснавалі драматычныя гурткі ў *мм. Дрыбін, Раманава, Гарадзішча,* у *сс. Сарцыслаў, Меншая Багацькаўка й Малышэвічы*[152].

Дадамо тут, што наагул на тэрыторыі Беларусі, занятай раней ці пазьней бальшавікамі, органы савецкай улады ўсюды арганізоўвалі русыфікатарскія расейскія драматычныя гурткі й тэатры[153].

Гісторыя гэта была-б няпоўнай, калі-б мы не дадалі тут, што беларускі культурна-адраджэнскі рух ува ўсіх ягоных аспэктах, з большымі ці меншымі перашкодамі, працягваўся ў *Летуве й Латвіі,* куды паводля ўмоваў з Масквою былі далучаныя ў 1918-20 гг. некаторыя прымежныя раёны беларускай этнаграфічнай тэрыторыі зь беларускім насельніцтвам. Калі ў Летуве ён выяўляўся пераважна ў *выдавецкай і навуковай дзейнасьці* (аб чым ужо была гаворка вышэй), у Латвіі (у Рызе, у Дзьвінскім, Люцынскім і часткова Рэжыцкім і Ілукштанскім паветах) — у *арганізацыйна-грамадзкай, асьветна-школьнай, выдавецкай, прэсавай, аматарска-тэатральнай* і іншай[154].

Таксама зь Беларусі культурна-адраджэнскі рух перакінуўся ў асяродкі беларускіх заробкавых аселішчаў і ўцякацкіх скупішчаў Расеі й Украіны, галоўна ў Петраград, Кіеў і Адэсу.

У *Петраградзе,* апрача бальшавіцкіх інстытуцыяў, Ч. Родзевіч, былы актор тэатру І. Буйніцкага (1907-13 гг.) і „Першага Таварыства беларускай драмы і камэрыі", заснаваў на пачатку 1918 году *„Таварыства прыхільнікаў беларускага народнага мастацтва*". Сябрамі гэтага „Таварыства" былі да выезду ў БНР Б. Тарашкевіч, Ц. Гартны, А. Будзька й шмат іншых беларускіх дзеячоў і патрыётаў. Яно мела ў Петраградзе колькі лякальных аддзелаў, арганізавала *дружыну беларускага тэатру й хор*[155].

У пачатку сакавіка 1918 году, калі *Кіеў і Ўкраіна* былі ачышчаныя ад бальшавікоў, „разагнаные і тэрарызаваные бальшавікамі беларускіе арганізацыі ў Кіеве ўзноў ажылі і працуюць у згодзе з Украінскай Цэнтральнай Радай"[156]. Із найбольшых арганізацыяў тут дзеюць *„Беларуская арганізацыя на тэрыторыі Ўкраіны*", каторая паўстала заміж былой *„Беларускай Вайсковай Рады ў Кіеве*", выбранай на зьезьдзе беларусаў-вайскоўцаў паўдзённа-заходняга фронту 17-22.XII. 1917 г., і *„Грамадзка-культурны клюб „Зорка*".

На чале першай арганізацыі стаялі інж. А. Галавінскі, Н. Разумоўскі й інш. Самым дзейным сябрам *„культурна-прасьветнай сэкцыі*" арганізацыі быў праф. Кіеўскага Ўнівэрсытэту М. Доўнар-Запольскі. У ўнівэрсытэце для беларусаў — дэмабілізаваных вайскоўцаў, работнікаў места й уцекачоў зь Беларусі па нядзелях ладзіліся *беларускія грамадзка-культурныя сходы.* У канцы красавіка 1918 году ў кватэты беларускай вайсковай арганізацыі сэкцыяй былі адчыненыя *Курсы беларусаведы,* дзе лекцыі чыталі праф. М. Доўнар-Запольскі й беларускі архэоляг У. Завітневіч, праф. Кіеўскай Духоўнай Акадэміі. Тады-ж *праф. М. Доўнар-Запольскі* напіаў і сваю *брашуру „Асновы дзяржаўнасьці Беларусі*", выдадзеную Урадам БНР у Горадні.

Другой арганізацыяй, пра выдавецкія пачаткі якой мы ўжо згадвалі, кіравалі гісторык беларускай літаратуры Л. Леўчанка, беларускі гісторык Я. Краскоўскі, музыказнаўца *А. Фарботка,* аўтар напісанае ім кніжкі *„Беларусь у песьнях*" (друк у Менску ў 1920 г.)[157].

Беларусаў у *Адэсе* арганізоўвалі С.Некрашэвіч, А. Баліцкі, Алесь Адамовіч і іншыя выдатныя асабістасьці. У пачатку сьнежаня 1917 году тут паўстала *„Беларускае культурна-асьветнае Таварыства „Гай*", як адна із арганізацыяў Беларускай нацыянальнай Рады Адэсы зь ейным выканаўчым органам — Беларускім Нацыянальным Камітэтам, замененым у верасьні 1918 году Консульствам БНР.

(працяг на 6-й бачынцы)

# У МЭЛЬБУРНЕ

## 61-я Ўгодкі Нараджаньня а. Аляксандра

У гэтым годзе, дзень нараджаньня Настаяцеля Мэльбурнскае Парахвіі БАПЦ, айца Аляксандра Кулакоўскага, адзначаўся больш урачыста чым у мінулыя гады. Акрамя звычайных вітаньняў, „добра-пажаданьняў" ды прыгожага караваю, як дарунак Сястры Аляксандры з дапамогаю сястрыцтва парахвіі, айцу Аляксандру быў уручаны надзвычайны падарунак: фахова пашытае сьвятарскае аблачэньне з дарагога й вельмі прыгожага матарыялу. Настаяцель, заскочаны неспадзеўкаю, выказаў шчырую падзяку за цэнны дарунак.



**На здымцы: а. Аляксандар, м. Раіса, бр. Захар, царкоўны стараста, і сп. Аляксандар Кажуро, старшыня Парх. Рады**

## *Дзень Маткі*

У 1986 годзе, вернікі БАПЦ, ў Мэльберне ўрачыста адзначылі *Дзень Маткі.* Бацькі ў сакрэце прыгатавалі ўсё патрэбнае, што ня толькі заскочыла але й зьдзівіла жанчынаў — маткаў. Пасьля прачулае прамовы, прыгожа аздоблены каравай разрэзала найстарэйшая векам Матка, Ольга Суботч (гл. здымку ніжэй). Зразумела, мужчыны не забыліся й пра сябе і ў добрым настроі правялі час супольна спажываючы напіткі й закускі. Прыцаркоўная заля была перапоўнена шчырымі гутаркамі, вітаньнямі, добрымі жаданьнямі ды традыцыйнымі народнымі песьнямі.



# Абразілі Несваю

Ніжэй друкуецца ліст які меўся-б быць апублікаваны ў газэце *Беларус.* Ведаючы, што *Беларус* не славіцца абаронаю БАПЦ, а наадварот, абароньнаю адшчэпніцтва й вуніяцтва, той публікацыі цяжка спадзявацца й таму ліст публікуецца тут у цэласьці. — *Рэдакцыя*

☆

Рэракцыі Газэты *Беларус,*
Беларусаў у Вольным Сьвеце,
Выдаванай: —
Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньням
У Нью Ёрку,
Злучаных Штатаў Амэрыкі.

Брадфард, 30.9.1986 г.

Спадары!

Сумную вестку пра сьмерць сьв. пам. Кацярыны Абабурко, Рада БАПЦ у Вялікай Брытаніі паведаміла беларусаў, знаёмых і былых прыяцеляў Пакойніцы, пры гэтым Беларускую Нацыянальную й Рэлігійна-Грамадзкую прэсу ў Вольным Сьвеце, не амінаючы Газэты *Беларус.*

Пасьмяротнае агалошаньне сьв. пам. Кацярыны Абабурко, зьмешчанае ў *Беларусе* Нр.330 за верасень 1986 год, Вы перарабілі так, што яно выклікае вялікае абурэньне з пасярод вернікаў БАПЦ у Англіі, таму Рада БАПЦ у Вялікай Брытаніі ёсьць змушана пісаць Вам строгі —

**П Р А Т Э С Т**

у якім заяўляем, што :—

1. Рэдакцыя *Беларуса* бязьлітасна замяніла сымвал: Сьв. Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, які Пакойніца шанавала й цаніла карыстаючыся пры сваім жыцьці.
   *Беларус* (у Вольным Сьвеце) зрабіў вялікую зьнявагу сьв. пам. Кацярыне Абабурко, і балючую крыўду вернікам ды сябром Рады БАПЦ, падаючы вестку сьмерці, пазбаўляючы свайго, а накідаючы чужы пры гэтым Ёй Крыж.
2. Мітр. Прт. а. Ян Абабурко, напісаў кароткую, але шчырую біяграфію свае спадарожніцы ў жыцьці, якую, па ягонай просьбе, Рада БАПЦ пераслала ў Рэдакцыі Беларускай Прэсы, у гэтым ліку і Вам, дзе бачыце з факту, што ён сам ад рукі нарысаваў крыж, які жадае каб быў зьмешчаны перад пачаткам артыкулу. Гэта зроблена не для выгадаў, а для духовага пачуцьця й абавязку.
3. Вельмі прыкра, што ў такім кароткім часе пасьля сьмерці сьв. пам. Кацярыны Абабурко, прыходзіцца прымаць такія меры абароны, але ня робячы нічога, будзе вялікі нам грэх.
   Беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў напісаў „Мёртвым не баліць", тут трэба дабавіць: „Памёршыя не абароняцца, а іх трэба бараніць!"

Ветліва прашу зьмясьціць гэты ліст на бачынках *Беларуса.*

За Раду БАПЦ у Вялікай Брытаніі,
Янка Калбаса — Сакратар.

# «Прапаную ... адмовіць ... Яноўскаму Доступ да Сьв. Прастолу»

Як ужо пісалася ў 53-м нумары *ЧАСУ* за сакавік 1986, грэцкі архіяпіскап Якавас забараніў Яноўскаму служыць на Рычмонд Гілл, у беларускай парафіі якая належыць да Якаваса.

Забарона была перадана пасрэдна праз а. Сьвятаслава Каўша із Саўт Рывэру. Ніжэй друкуецца фотокопія тэксту забароны падпісаная а. Каўшом.

Цікава заўважыць, што дакладна тыя самыя „дзеячы" якія пайшлі ў суд лепш чым падпарадкавацца забароне Яноўскаму выданай беларускім герархам, маўчалі як мышы пад мятлою калі падобную забарону выдаў грэцкі герарх. Чужога паважаюць а свайго зьневажаюць — нажаль гэта ёсьць адзнака духовага нявольніцтва й незразуменьне свабоды наагул.

Byelorussian Council of Orthodox Churches in North America — Беларуская Царкоўная Рада ў Паўночнай Амэрыцы

27 студзеня 1986 г.

Парахвіяльнай Радзе і добрачэсным вернікам Царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гілл, Нью Ёрк.

Дарагія браты і сёстры!

Пры гэтым залучаю копію ліста падпісанага Мітрапалітам Ізяславам /Бруцкім/ у справе а. Александра Яноўскага. Гэты дакумант зьяўляецца доказам таго, што з людзьмі з-пад знаку БАПЦ нельга мець нешта супрльнае, бо для іх ня існуюць формы прыстойнасьці.

Вы ўсе ведаеце аб тым, што гісторыя БАПЦ гэта гісторыя судоў ды абліваньня балотам адных другімі. Вы на ўласным досьледзе пераканаліся ў гэтым. Вас прагнялі ўлады БАПЦ і выкінулі з пабудаванае Вамі Царквы. Тагды Вы прасілі Матку Сусьветную Праваслаўную Царкву ў асобе Архіепіскапа ІАКОВОСА Экзарха Сусьветнага Канстантынопальскага Патрыярха прыняць вас у яе ўлоньне. З дапамогаю Бога і вашым высілкам вы збудавалі цяперашнюю Царкву Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл.

Вы ўяўляеце сабою добрую Хрысьціянскую Праваслаўную сям'ю ў якую трымаеце дзьверы расчыненымі для ўсіх суродзічаў, шукаючых радасьці духовае ад Бога. Кіруючыся такім узвышаным пачуцьцём, Вы дазволілі, як гасьцю, карыстацца ў парадку прыпадковасьці, будынкам Вашае царквы, а. Александру Яноўскаму. Вашаму настаяцелю а. Усеваладу Шэмеціла я, як Адміністратар Беларускае Царкоўнае Рады, сказаў рашуча, каб ён ня прымаў удзелу ў Богаслужбах, праўленых а. Яноўскім, пакуль гэты апошні не ўпарадкуе ягоны кананічны статус з Нашым Першым Гіерархам Архіепіскапам ІАКОВОСАМ. Такім чынам ворагі а. Яноўскага ня мелі найменшае прычыны ўмешываць вашу парахвію ў іх сямейныя спрэчкі і пасрэдна кідаць балота ў бок нашае Беларускае Праваслаўнае Епархіі.

У сіду створыўшыхся ад нас незалежных абставінаў, прапаную Вам у ветлівей форме адмовіць а. Яноўскаму доступ да Сьв. Прастолу пакуль ён не ўпарадкуе свой кананічны статус з нашай Архіепархіяй. Адначасна з гэтым я звярочваюся да Адміністрацыі Бэдэр-Менок з прапановаю не дапускаць да Сьв. Прастолу ў гэтым асяродку ніякага духоўніка з БАПЦ ды наагул нікога без майго ведама.

З любоўю ў Богу Ваш
а. Сьвятаслаў Коўш
а. Сьвятаслаў Коўш Адміністратар Беларускае Царкоўнае Рады

---

**ЯК УКРАІНЦЫ ШАНУЮЦЬ СВАЮ ЦАРКВУ:**

## *Дэлегацыя УРДП Злажыла Візыту да Мітрапаліта Мсьціслава*

*МЕТА, верасень 1986.* — 26 ліпеня 1986 г. дэлегацыя украінскай партыі „рабочых-дэмакратаў", УРДП, злажыла візыту да Мітрапаліта Мсьціслава ў ягонай канцылярыі ў Баўнд Бруку каб выказаць сваю пашану, лаяльнасьць і падтрымку Мітрапаліту й Кансысторыі УПЦ. Дэлегацыя, выказваючы сваю пашану да ўсіх цэркваў, выказала асаблівае прызнаньне Украінскай Праваслаўнай Царкве ачоленай Уладыкам Мсьціславам якая сёньня знаходзіцца найважнейшым фактарам у украінскім арганізаваным жыцьці ў дыяспоры.

На сустрэчы з Мітрапалітам парушаліся тэмы 1000-леցця хрышчэньня Украіны, наступ варожых сілаў на украінства й неабходнасьць утварэньня аднаго аўтарытэтнага нацыянальнага украінскага цэнтру. Уся сустрэча з Мітрапалітам прайшла ў надзвычайна мілай атмасфэры і з глыбокай пашанай да УПЦ.

Мы, як Беларусы, параўнаем гэты прыгожы ўчынак з тым, што робіцца ў нас у БАПЦ: ужо шэсьць гадоў старшыня Рады БНР і некаторыя сябры ураду БНР судзяцца з беларускаю царквою ў амэрыканскіх і канадыйскіх судох за уладу й ці паверыце, за *царкоўную* уладу. (Фармальна, на паперах, за маемасьць). Палітыкі хочуць кіраваць царквою й гэтым яны капаюць сабе сваю нацыянальную магілу.



**СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ**

## МАТУШКА

Мітр. Прат.
а. Яна Абабуркі

## КАЦЯРЫНА

Матушка Кацярына паходзіць з сялянскай сям'і, дачка Андрэя й Ганны, нарадзілася 4-га лістапада 1921 г. у вёсцы Морач, Клецкага павету ў Заходняй Беларусі.

Маючы 16 гадоў належала да царкоўнага хору й сваім маладым ды прыгожым голасам упрыгожвала Божыя Службы. У 1940 г. выйшла замуж за Яна Абабурко і ў 1942 г. нарадзіўся сын якому далі імя Мікалай — гэта й была найвялікшая радасьць. Нажаль радасьць доўга не патрывала бо ваенныя падзеі разлучылі Кацярыну з яе мужам Янам і яна асталася са сваім сынком Мікалаям.

Смутак і жаль агартае сэрца маці ды недастаткі ў штодзённых патрэбах, аднак з Божай дапамогай яна ўзгадавала свайго сына на якога паклала надзею дапамогі ў яе старасьці. Але й тут думкі ня зьдзейсьніліся, сын Мікалай, маючы 24 гады, загінуў трагічнай сьмерцю. Нанова жаль агарнуў сэрца маці. Яна заняпала духова й фізычна і нават лякарская камісія залічыла яе да інвалідаў і на гэта выдала ёй посьвятку.

У гэтым часе а. Ян пачаў рабіць захады каб сьцягнуць яе да сябе ў Англію і дзякуючы Богу й добрым людзям, гэта зьдзейсьнілася. 31-га сьнежня 1967 г. матушка Кацярына прыбыла да Англіі й па 23-х гадовай разлуцы зноў зышлася з мужам. Па некаторым часе, матушка Кацярына ажыла духова й змацнела фізычна. Яна не абмежавалася толькі сямейнымі заняткамі, але таксама ўкладала шмат працы ў упрыгожаньні царквы ў Мачэстары.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква была для яе найважнейшаю за ўсё і яна аддавала ўсе свае сілы й здольнасьці для дабра царквы. Яна вышывала ўзоры на ручніках, ваплетала каронкі рознымі ўзорамі й кожная ікона атуляная такімі ручнікамі.

Матушка так-жа была выдатнай памочніцай для а. Яна ў Божых Службах, як хрост, паховіны і рад другіх трэбаў, асабліва калі выяжджалі па за Манчэстар. Хоць здароўе яе ня было завіднае, аднак яна заўсёды была вясёлаю, гасьціннаю і хто-бы толькі завітаў да іх хаты, то яна заўсёды вітала мілымі беларускімі словамі, ды гасьціла чым толькі хата багата.

Ня суджана было ёй прадаўжаць зямное жыцьцё, па волі Божай, дня 29-га жніўня 1986 г., а гадзіне 6:30 раніцы, матушкі Кацярыны сэрца перастала біцца і яна заснула на векі, пакінуўшы ў вялікім смутку а. Яна, а ў Беларусі, сястру, братоў з сем'ямі, унучку й праўнука. Сьв. Літургію й адпяваньне адслужыў Прат. а. Ян. Пекарскі (БАПЦ) ў саслужэньні Мітр. Прат. а. М. Хуторнага й Прат. а. А. Максымука (сьвятары УАПЦ).

Паховіны адбыліся 5-га верасьня 1986 г. на магілках Соўтгэн Сэмэтэры ў Манчэстары.

На разьвітаньне прыбыло надзвычай шмат людзей, ня толькі Беларусаў, але шмат іншых нацыянальнасьцяў якія ведалі пакойную.

Дык сьпі дарагая матушка Кацярына сном спакойным. Хай будзе табе лёгкай Ангельская зямелька й сьніцца табе любая Маці-Беларусь, а Міласэрдны Госпад Бог, Які прыняўе душу Тваю, ўселіць там дзе ўсе праведнікі супачываюць.

*Вечная Памяць.*

## ПАДЗЯКА

Атрымаўшы так вялікую колькасьць спачуваньняў з прычыны сьмерці спадарожніцы майго жыцьця матушкі Кацярыны, я не ў стане падзякаваць кожнаму асабіста. Дзеля гэтага, вось гэтай дарогай перасылаю шчырую падзяку ўсім за Малітвы, за спачуваньні перасланыя лістоўна, выказаныя асабіста, ды за рознага роду дапамогу.

Шчыра, шчыра дзякую.

*— Мітр. Прат. а. Ян Абабурко*

**З ЖАЛОБНАЙ ХРОНІКІ**

## Памёр айцец Еўген Сітнік ў Адэляйдзе

З вялікім жалям і смуткам у сэрцы паведамляю аб сьмерці нашага настаяцеля ерэя Еўгена Сітніка, які адыйшоў на вечны супачынак у пятніцу вечарам 29-га жнівеня, 1986 г., пакінуўшы нашую парафію Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе без сьвятарскай апекі.

2-га верасьня, 1986 г., чын пахові наў спачылага ерэя Еўгена выканалі: а. протапрасьвіцер Аляксандар Кулакоўскі з Мельбурнскай парафіі БАПЦ Сьв. Віленскіх Мучанікаў Антона, Яна й Еўстафія; протаерэй Аляксандар Зелінскі з Украінскай Праваслаўнай Царквы ў Адэляйдзе і; протаерэй Драгалюб Петковіч з Сэрбскай Праваслаўнай Царквы.

*Міхаіл Бурнос*
*дырыгэнт.*

**ВЫПІСВАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ АНГЕЛЬСКА—БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЭТУ БЕЛАРУСКІ «ЧАС»**

## *Выйшаў Беларускі Праваслаўны Каляндар на 1987 год*




У Мэльбурне, Аўстраліі, выйшаў беларускі праваслаўны каляндар на 1987 год пад рэдакцыяй айца А. Кулакоўскага. Каляндар мае 75 бачынак вялікага разьмеру. Апрача самага каляндара зьмешчаны малітвы, рэлігійныя й цікавыя сьвецкія артыкулы, вершы ды нават сьпісак беларускіх мітрапалітаў пачынаючы ад Тэафіла (1315-1330) і канчаючы на сёньняшнім Мітрапаліце Ізяславе Бруцкім.

Каляндар прадаецца ў легітымных парафіях БАПЦ ў вольным сьвеце і ў іншыя спосабы.

Як ведама, у Савецкай Беларусі Масква не пазваляе выдаваць беларускія каляндары й адзіны іншы беларускі каляндар выходзіць у акупаваным Беластоку пад камуністычнай Польшчай.

## Акт 25-га Сакавіка...

(працяг з 4-й бачынкі)

У 1918 годзе ў месьце, на Казарменным завулку, быў адчынены *Беларускі Клюб.* У ім была *Беларуская бібліятэка* з кніжкамі Я. Купалы, Я. Коласа, А. Гаруна, Ядвігіна Ш. і другіх беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў. Пры клюбе працавалі *гурткі — літаратурны, тэатральны й харавы.* Да літаратурнага гуртка належалі М. Грамыка, паэта ад 1907 году, які тут напісаў у 1918 годзе свой першы драматычны твор, п'есу „Зьмітрок зь Высокай Буды", апублікаваную ў менскай БНРаўскай газэце „Вольная Беларусь" (Нр.Нр.33-35, 1918 году); М. Пятуховіч, пазьней аўтар і праф. беларускай літаратуры Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту ў Менску. Найбольшую дзейнасьць у клюбе разгарнуў тэатральны гурток, арганізаваны акторам і пазьнейшым у Менску драматургам А. Ляжневічам. Тут (а часам у клюбе чыгуначных майстэрняў) часта ладзіліся *беларускія спэктаклі й канцэрты.* Ставіліся п'есы „Паўлінка", „Модны шляхцюк", „Чорт і баба", „Па рэвізіі" й г.д.

Пры *1-ым беларускім дзіцячым прытулку* на летніку Дунаеўскага ў прыморскай Аркадыі ў 1919 годзе была адкрыта *беларуская школа* (настаўнікі — П. Ілічонак, Р. Казела й інш.). *4 другія школы* былі адкрытыя пры *пляцоўках беларускіх дзяцей* на ўскраінах Адэсы. Узімку 1920 і ўвесну 1921 гг., калі ў Адэсе лютавалі голад і тыфус, дзіцячы прытулак з Аркадыі перамясьцілі ў *будынкі был. Кадэцкага Корпусу,* а іншы адкрылі непадалёку, на *10-ай станцыі.* Сюды цяпер перайшла й галоўная культурна-асьветная праца. У *школах дзіцячых прытулкаў* настаўнікамі працавалі М. Грамыка, пазьнейшы дац. матэматыкі А. Аляхновіч, М. Пятуховіч, Л. Рытар. Зь Менску прыходзілі беларускія кніжкі й газэты. Тут працягваліся *беларускія спэктаклі й канцэрты*[158].

Падобных прыкладаў руху адраджэньня нацыянальнай беларускай культуры ў гады падрыхтовы й тварэньня БНР, найвышэйшым кульмінацыйным пунктам якога быў Акт 25-га Сакавіка, можна было-б прыводзіць бясконца. Але нам думаецца, што досыць і прыведзеных.

Гэты запраўды народны рух — такі раптоўны, хуткі, масавы — вобразна можна было-б прыраўнаць да веснавой паводкі, калі на зьляжалы, спрасаваны за даўгую халодную зіму сьнег неспадзявана ўдарыла сонечнае цяпло, растапіла й скранула яго зь места, і ён рушыў-пацёк сотнямі-тысячамі ручайкоў па ўсёй Беларусі, зьліваючыся ў цэлыя рэчкі й бурлівыя патокі, ламаючы, зносячы на сваім шляху ўсе перашкоды-бар'еры... І савецкая Масква ўжо няздольная была рух гэты затрымаць, адно працягам палітыкі ўсё большых і большых абмежаваньняў, русыфікацыі й тэрору[159] трымаць яго пад сваёй кантроляй.

—————————————

108) Ф. Аляхновіч. Беларускі тэатар, Вільня, 1924.

109) The Byelorussian Theater and Drama by Vladimir Seduro, New York, 1955.

110) Ф. Аляхновіч. Першае таварыства беларускай драмы і камэдыі — час. „Рунь", Менск, 1920 г., Нр.2; Kanstantyn Yezavitaŭ. Zur Geschichte des Weissruthenischen Theater — Ostland, Riga, 1943, No.9; і інш.

111) Яўген Рамановіч. Першы тэатр, Мінск, 1946; Владимир Нефед. Становление белорусского советского театра, 1917-1941, Минск, 1955; і інш.

112) У 1907 годзе ён скончыў Драматычную школу ў Варшаве. У 1907-8 гг. працаваў акторам у польскіх вандроўных тэатрах, а ў 1920 годзе — з І. Буйніцкім.

113) Homan, Нр.86 за 8.XII.1916 г. (арт. "Biełaruski teatar"); Там-жа, Нр.92 за 29.XII.1916 г.

114) Там-жа, Нр.48/244 за 14.VI.1918 г.

115) Там-жа, Нр.18/110 за 2.III.1917 г.

116) Там-жа, Нр.58/150 за 20.VII.1917 г.

117) Там-жа, Нр.62 за 15.IX.1916 г. і Нр.64 за 22.IX.1916 г.

118) Рэцэнзіі на спэктакль — у „Гомане", Нр.16/108 за 23.II.1917 г. і ў "Wilnaer Zeitung" (No.48).

119) Homan, Нр.56/252 за 16.VII.1918 г.

120) Ф. Ждановіч у 1902 годзе скончыў Варшаўскую драматычную школу. Працаваў акторам у пльскіх тэатрах. У 1907-13 гг., разам з І. Буйніцкім, А. Бурбісам і У. Фальскім, арганізоўваў беларускія драматычныя гурткі ў Вільні, Менску й Слуцку.

121) Тодар Кулеша (Дыла). Першае таварыства беларускай драмы і камэдыі ў Менску (У. І. Няфёд. Беларускі тэатр. Нарыс гісторыі, Мінск, 1959, б.107).

122) Там-жа; газ. „Вольная Беларусь", Нр.3 і 9 за 1917 г. (рэцэнзіі).

123) У. І. Няфёд, бб. 108 і 111.

124) „Полымя", 1964, Нр.7, бб.171-172.

125) The Byelorussian Theater and Drama by V. Seduro, б.45 and Plate III; Нефед. Становление... театра, бб.12-13.

126) К. Езавітаў. Францішак Алекна-Аляхновіч — час. „Новы Шлях", Менск, 1944, Нр.6/42, б.7.

127) Там-жа.

128) Газ. „Беларусь", Нр.12 за 1919 г. (рэцэнзія).

129) Выдадзена ў Менску ў 1920 г.

130) Турук, б.62.

131) „Беларусь", 21.XII.1919 г. (рэцэнзія З. Бядулі).

132) Турук, бб.90-91.

133) Там-жа, б.48; БелСЭ, т.2, б.189; Полымя, 1972, Нр.7, б.208. Пры ім было й Выдавецтва, як мы ўжо вышэй адзначылі.

134) А. В(арлыга). Усебеларускі Кангрэс у Менску 18-31 (5-18 ст.ст.) 1917 г. (Успаміны дэлегата Кангрэсу) — Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Мюнхэн, 1964, б.148; газ. „Літаратура і Мастацтва", Мінск, Нр.53/2207 за 7.VII.1967.

135) БелСЭ, там-жа.

136) Літаратура і Мастацтва, Нр.53/2207; А. В(арлыга), там-жа.

137) Энцыклапэдыя літаратуры і мастацтва Беларусі, Мінск, т.2, б.355; Нефед, бб.26-28.

138) Літаратура і Мастацтва, Нр.53/2207.

139) Нефед, бб.33-35; Літаратура і Мастацтва, Нр.53/2207.

140) Нефед, б.33.

141) Там-жа, б.36.

142) Там-жа, бб.31-33; Літаратура і Мастацтва, Нр.53/2207.

143) Нефед, бб.32-33; Літаратура і Мастацтва, Нр.53/2207.

144) Літаратура і Мастацтва, Нр.53/2207.

145) Там-жа.

146) Энцыклапэдыя літаратуры і мастацтва Беларусі, т.2, б.190.

147) Нефед. б.39; Літаратура і Мастацтва, Нр.53/2207.

148) Я. Варонко. Беларускі рух ад 1917 да 1920 году, Коўна, 1920, б.26.

149) Літаратура і Мастацтва, Нр.53/2207; Нефед, б.33.

150) Нефед, б.37.

151) Г. Гарэцкі. Да гісторыі нашага тэатру (Там-жа).

152) Час. „Беларусь", Мінск, 1972, Нр.2, б.27; Літаратура і Мастацтва, Нр.53/2207.

153) У *Магілёве* ў 1919 годзе „активно работает русская труппа актеров, именуемая „*Могилевским советским театром*". Ягоны рэпэртуар: „Труд и капитал", „Горькая судьбина" А. Пісемскага, „Зеленый попугай" А. Шніцлера. У *Барысаве драматычны гурток паветавага аддзелу асьветы* ставіў інсцэніроўку „Хамелеон", „Юбилей, „Злоумышленник", „Унтер Пришибеев", „Медведь", „Предложение" й „Хирургия" А. Чехова, п'есы „Женитьба" Н. Гогаля, „В чужом миру похмелье" А. Астроўскага, „От нее все качества" Л. Талстога, „Парижская Коммуна", „Под красным знаменем" і г.д. У *Мазыры* ў 1919 годзе пададдзел „Театр и искусство" 16-га лютага адкрыў „*Народный театр*" спэктаклем „Женитьба Белугина". І гэтак усюды. (Нефед, бб.20,38).

154) Турук, бб.58-59; Я Найдзюк, бб.232-241. У „Запісах Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, Нью Ёрк, у Нр.16, 1978 г., на бб.92-97 апублікаваны цікавыя ўспаміны Пётры Мірановіча „Беларусы ў Латвіі" із дадатковымі дадзенымі й дэталямі. Нажаль, тут ёсьць і некаторыя недакладнасьці, нязгодныя з апублікаванымі дакумэнтамі й інфармацыямі Турука й Найдзюка, а на б.93 згары, відаць — памылка друку, дзе, заміж „пры канцы 1920 году", трэба чытаць — 1919-га (Турук на б.58 падае дакладную дату: кастрычнік 1919 г.).

155) Нефед, бб.39-40.

156) Homan, Нр.31/227 за 16.IV.1918 г. (арт. Biełarusy ŭ Kijewie).

157) Там-жа, Нр.31/227 і Нр.38/234 за 10.V.1918 г.

158) Турук, б.30; А. Саковіч. Беларусы ув Адэсе — Навукова-Літаратурны месячнік Крывіцкага (Беларускага) Навуковага Таварыства Пранціша Скарыны „Веда", Нью Ёрк, Нр.5/10, май 1952 г., бб.153-158; Полымя, 1964, т.7, б.173; Нефед, б.40.

159) Блізу ўсе, хто тут названыя, што засталіся ў БССР (ці пазьней вярнуліся сюды із эміграцыі або пераехалі із Заходняй Беларусі), творцы, арганізатары й кіраўнікі адраджэньня — беларускія філёлягі, працаўнікі асьветы й аўтары школьных падручнікаў, выдаўцы, публіцыстыя, акторы, драматургі, музыказнаўцы, рэгэнты хораў, балетмайстры й г.д. — у 1930-ых — пач. 1940-ых гг. як „беларускія буржуазныя нацыяналістыя" трагічна загінулі ў падвалах ГПУ-НКВД, на ссылках і ў савецкіх канцэнтрацыйных лягерох. Тым, што выжылі, у бальшыні выпадкаў Масква не дазволіла вярнуцца ў Беларусь.